Народная Воля 13 ЛІСТАПАДА 2001 г.

ПУЛЬС

## Слесар Іна Анішчук



"Брэстгазаапарат" — адзінае ў Беларусі прадпрыемства па выпуску бытавой газаэлектрычнай тэхнікі. Тут і працуе слесарам Іна Анішчук, якая паказвае нам выдатна зробленыя газавыя пліты для дачнікаў і турыстаў.

Фота БелТА.

## "Беларусбанк" пачаў выплату кампенсацыі па выйгрышных укладах

**Акцыянерны ашчадны банк "Беларусбанк" пачаў выплату кампенсацыі па выйгрышных укладах, што захоўваліся ў Ашчадным банку ў перыяд з 1 студзеня 1992-га да 1 студзеня 1995 года.**

Выкуп дзяржаўных кампенсацыйных аблігацый ажыццяўляецца ў грамадзян, якія карыстаюцца льготамі, а таксама дасягнулі 47 гадоў і старэй.

Для афармлення дакументаў на выкуп кампенсацыйных аблігацый і кансультацый па пытанні атрымання кампенсацыі ўладальнікам выйгрышных укладаў неабходна звяртацца ва ўстановы ААБ "Беларусбанк" па месцы захоўвання ўкладаў або па месцы жыхарства.

Аляксей АРЭШКА.

## У Брэсцкай вобласці расце беспрацоўе

**На ўліку ў службе занятасці знаходзіцца 13 тысяч чалавек. Гэта на 19,2 працэнта больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.**

У службу занятасці з просьбай аб працаўладкаванні звярнуліся 36,8 тысячы чалавек. З іх былі працаўладкаваныя 26,8 тысячы. Зараз на адно свабоднае месца прэтэндуюць трое беспрацоўных. Прапаноўваемыя вакансіі, як правіла, малааплачваемыя.

Сёлета, паводле ініцыятывы адміністрацый, у рэжыме няпоўнага тыдня працавалі 37,9 тысячы чалавек, што ў 1,9 раза больш, чым летась. У вымушаных адпусках знаходзіліся 34,5 тысячы чалавек, што на 3,7 працэнта больш, чым летась. 64,4 працэнта з іх не атрымалі грашовую кампенсацыю.

Валянціна КАЗЛОВІЧ.

## Бельгійскія ўрачы зрабілі аперацыю хлопчыку з Чэрыкава

**У шпіталі брусельскага універсітэта Сант-Лус (Бельгія) паспяхова прайшло апераванне 4-гадовага жыхара Чэрыкава Магілёўскай вобласці, які пакутаваў на прыроджаны парок сэрца.**

Аперацыя стала магчымай дзякуючы супрацоўніцтву бельгійскай дабрачыннай арганізацыі АСПЕКТ і асабіста спадара Іваса Тандуя, якія 10 гадоў аказваюць гуманітарную дапамогу Чэрыкаўскаму раёну, што пацярпеў ад катастрофы на ЧАЭС.

Бягада бельгійскіх урачоў правяла апераванне чэрыкаўскага хлопчыка бясплатна. Зараз стан здароўя дзіцяці добры, і ён выпісаны са шпіталю. Паводле папярэдняй інфармацыі, цяпер прапрацоўваецца магчымасць аперацыі ў Бельгіі яшчэ аднаго дзіцяці з Чэрыкава, якое мае такое ж захворванне.

## Англічане дапамагаюць бальніцы "Хімвалакна"

**Англійская дабрачынная арганізацыя Angels International пацвердзіла сваё жаданне супрацоўнічаць на працягу бліжэйшых пяці гадоў з медыцынскай санітарнай часткай Магілёўскага вытворчага аб'яднання "Хімвалакно".**

Ужо тры гады англічане працуюць з гэтай найбуйнейшай медустановай Магілёўскай вобласці. Увесь гэты час яны пастаўлялі бальніцы хірургічныя інструменты, абсталяванне для правядзення аперацый і апрацоўкі апёкаў, інкубатары, ложкі з падаграваннем для дзяцей, перавязачныя матэрыялы і шмат іншага. У бліжэйшых планах брытанскай арганізацыі — даўкамплектаванне медабсталяваннем апёкавага і дзіцячага інфекцыйнага аддзяленняў санчасткі, набыццё спецыяльнай медыцынскай літаратуры, а таксама арганізацыя і фінансаванне стажыровак магілёўскіх урачоў і медсясцёр у клініках Расіі і Вялікабрытаніі.

Канстанцін УВАРАЎ.

ЭКОНОМИЧЕСКИЕ ДРАМЫ

# "Бриллиантовой руке" государства некому руку подать

**В Гомельском объединении "Кристалл" остановлены уникальные цеха по производству бриллиантов. 570 рабочих оказались не у дел. Государственная "бриллиантовая рука" в лице объединения перестала давать в бюджет страны десятки миллионов валютных средств.**

**Корреспондент "Народной воли" беседует с генеральным директором республиканского алмазообрабатывающего унитарного предприятия "Гомельское ПО "Кристалл" Александром СТАРОВОЙТОВЫМ**

**— Александр Семенович, кажется, это уже третье потрясение, которое испытывает объединение в последнее десятилетие?**

— Действительно, "Кристалл" в третий раз попадает в макроэкономическую ситуацию, когда его экономика просто разваливается. Специфика всех алмазообрабатывающих предприятий, работающих на экспорт, такова, что они очень чувствительны к девальвации национального рубля и темпам инфляции. К примеру, на выходе предприятие зарабатывает 1 доллар, который обменивается на белорусские рубли. Официальный курс в течение года изменился незначительно, зато все затраты, характеризующие уровень инфляции, подскочили неимоверно высоко. Увеличились тарифы на энергоносители, цены на услуги, материалы, выросла зарплата. Эти "ножницы" работают против экспортеров. И особенно, если предприятие, как наш "Кристалл", 95—99 процентов продукции отправляет на экспорт.

**— Вы хотите сказать, что "ножницы" урезают ваши доходы?**

— Именно! С учетом конкретных затрат "ножницы" для нашего предприятия составили 9,2 процента. Тяжесть ситуации усиливается тем, что бриллианты — весьма специфическая продукция, которая продается по строго фиксированным ценам. Цены эти на рынке только на 9—15 процентов превышают стоимость исходного сырья. В результате потеря на "ножницах" даже 1 процента добавленной валютной стоимости равнозначна "вымыванию" 5—8 процентов оборотных средств. Замечу: при каждом обороте. Это и привело к тому, что рентабельность нашего экспорта составляет теперь минус 1,6 процента. Еще полтора года назад она была плюс 80,7 процента. На начало октября мы потеряли оборотных средств на сумму 500 миллионов рублей (или 410 тысяч долларов США), что равнозначно зарплате в два с половиной месяца всего коллектива, который обеспечивает выпуск экспортной продукции. Налицо кризис алмазообработки, и он весьма похож на тот, что переживали мы в 1994—1995 годах. Кроме того, в последнее время резко увеличился удельный вес налоговых и неналоговых платежей в бюджет от реализации продукции.

**— Поэтому предприятие не в состоянии купить алмазное сырье, чтобы производить бриллианты без остановок и потрясений?**

— Дело несколько сложнее. 21 мая нынешнего года было подписано соглашение на 5 лет между правительствами Беларуси и России о поставке природных алмазов. Однако соглашение не работает. С российской стороны исполнителем его выступает акционерная компания "АЛРОСА". Это негосударственная компания, хотя и с долей госсобственности. Никаких политических целей компания, конечно, не преследовала. У нее — коммерческий интерес. Межправительственное соглашение предусматривает, что алмазы в Беларусь будут продаваться без НДС. Но сама "АЛРОСА" платит этот налог поставщикам материальных ресурсов, используемых при добыче алмазов. И поскольку вопрос возврата налога компании не был урегулирован, то она и не стала отправлять алмазное сырье нашей стране. Никакие волевые решения не заставят ее поступать иначе, пока не разрешится интересующий компанию вопрос.

**— Если нельзя в России купить собственное сырье, то почему не воспользоваться так называемым давальческим сырьем? Тоже ведь вариант, чтобы алмазообрабатывающее производство не простаивало.**

— Обидно, но Беларусь сегодня является единственной в мире страной, в отношении которой российское налоговое, таможенное, экспортное законодательства не урегулированы. Кроме того, в минувшем августе Государственный таможенный комитет России издал приказ №833 "О таможенном оформлении драгоценных металлов и драгоценных камней". Значительно усложнена процедура не только вывоза драгоценных камней к нам в Беларусь, но и ввоза из нашей страны в Россию.

Перемещения должны осуществляться через специализированные таможенные посты и обязательно с участием государственных контролеров Министерства финансов России. И тех, и других единицы. Процедура затягивается на месяцы. Таким образом наша страна оказалась отрезанной и от давальческого алмазного сырья.

Введенное регулирование коснулось не только алмазов, но и драгоценных металлов, что чувствительно и для наших ювелирных предприятий. Все это свидетельствует о мерах сдерживания поставок в Беларусь природных алмазов и драгоценных металлов и противодействия продвижению готовой продукции из Беларуси на российский рынок.

**— Нельзя ли "Кристаллу" получать алмазное сырье из дальнего зарубежья, коль ближнее отгородилось стеной?**

— Еще несколько лет тому назад мы получали оттуда алмазное сырье. До последнего времени с нами сотрудничала бельгийская фирма "Дали Даймонд". Однако меры тарифного и нетарифного регулирования, таможенного, валютного, экспортного контроля, налоговые и неналоговые сборы, режимность и введенная в прошлом году секретность в алмазообработке Беларуси привели к тому, что мы вообще стали малопривлекательными для мирового бриллиантового рынка. Прискорбно, но созданный вокруг алмазообработки монстр государственного регулирования отпугнул поставщиков из дальнего зарубежья.

**— Зачем Беларуси такой монстр и невероятная секретность? Если в Бельгии годовой оборот бриллиантов достигает 27 миллиардов долларов, то с этого никто секрета не делает.**

— Мне трудно отвечать на вопрос, почему вокруг алмазообработки возведена стена секретности. Нельзя распространять информацию об объемах переработки алмазов, источниках сырья и прочем. Считаю это решение ошибочным. Оно намного осложнило наши отношения с партнерами из дальнего зарубежья. Ничего другого ждать не приходится: секретность порождает недоверие.

**— Так может, вообще не нужна нашей стране такая отрасль, как алмазообработка?**

— Приходилось слышать и такое. Однако нельзя забывать, что наше производство глубоко интегрировано в мировой рынок. По качеству обработки алмазов мы в лидерах на этом рынке. Объединение вообще может служить своеобразным полигоном, на котором можно проверять правильность общих мер хозяйствования в нашей державе. Кстати, на своем примере мы видим, что эти меры не совсем стыкуются с цивилизованным миром. И хотя бы потому, что в цивилизованном мире такие предприятия, как наше, существуют и не бедствуют. На белорусской земле они просто исчезают. Раньше было 5 предприятий, потом осталось только наше. Недавно открыли еще одно — в свободной экономической зоне.

Если уже говорить откровенно до конца, то исчезнувшие у нас предприятия перебазировались в Польшу, Чехию, в Россию — даже два.

**— Как сказываются переживаемые предприятием потрясения на коллективе?**

— В течение прошлого и нынешнего годов предприятие покинули 270 огранщиков алмазов — более половины от среднесписочной численности. Это равнозначно потере выпуска бриллиантов на 4,8 миллиона долларов США и недопоступлению в бюджет 1,8 миллиона долларов. И вот что не дает покоя: чтобы удержать их, нужно было всего средств в пределах 600 тысяч условных единиц. По существу, это сумма "вымытых" у нас оборотных средств.

Прискорбно, но впервые за последние годы мы не можем рассчитаться с бюджетом, оплатить долги за энергоносители и даже выдать коллективу полную зарплату. Кстати, и сам уровень зарплаты рабочих алмазообработки очень низок — около 64 долларов.




Художник Владимир ЧУГЛАЗОВ, г. Брест.

Все это предопределило отток высококвалифицированных кадров. Люди уезжают работать на бриллиантовые предприятия к соседям и получают там с первого месяца 400—700 долларов.

Особенно много наших специалистов уезжают в Россию. По существу, наше предприятие перестает быть производственным и превращается в профтехучилище по подготовке персонала для алмазообработки в России.

**— Кроме алмазного производства, объединение числится в реестре высокотехнологичных предприятий по совершенно другому направлению. Как там обстоят дела?**

— Выпуск бриллиантов — не единственный наш профиль. Мы занимаемся синтезом алмазных микропорошков и изготовлением инструментов на их основе, в том числе и для стоматологии. Для этой цели создано уникальное предприятие. Более половины его продукции тоже идет на экспорт.

В состав объединения входит и предприятие "Ювелир", которое выпускает до тысячи ювелирных изделий. Здесь же изготавливаются высшие награды страны — ордена и медали.

Мы имеем серьезные проработки развития этих производств на ближайшую и более отдаленную перспективу.

У меня нет сомнений, что, в конце концов, будет разрешен и вопрос о поставках природных алмазов на основе соглашения между правительствами Беларуси и России, и мы преодолеем мрачные дни простоя бриллиантового производства.

Беседовал
Анатолий ГОТОВЧИЦ.

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

## Могілкі агарадзілі да Дзядоў

Сёння ў многіх малых вёсках пераважная большасць іх жыхароў — пенсіянеры пад семдзесят і болей год, ім не пад сілу самім агарадзіць могілкі, прыбраць адтуль паваленыя старыя ці падгнілыя дрэвы.

Нешта падобнае назіралася і ў вёсках Паноўцы, Бярозаўка, Лошыца, Ліпнікі, Таліца Вясейскага сельсавета. Ды там на дапамогу састарэлым жыхарам па ініцыятыве райвыканкама прыйшлі Слуцкае лясніцтва і ПМК-71. Яны выдзелілі патрэбныя лесаматэрыялы, рабочых, і тыя за некалькі дзён ва ўсіх пералічаных вёсках вакол могілак паставілі дабротныя агароджы, ачысцілі тэрыторыю ад буралому. І цяпер усе дзесяць могілак на тэрыторыі сельсавета прыведзены ў парадак. У дзень памяці памерлых — на Дзяды — у жыхароў гэтых вёсак быў адзін клопат — прыбраць могілкі родных і блізкіх, запаліць на іх памінальныя свечкі.

## Абяцанкі-цацанкі

Наведаўшы напачатку ліпеня месяца Случчыну, А.Лукашэнка, па шляху ў г.Старыя Дарогі, завітаў у калгас імя Арджанікідзе, балазе цэнтральная сядзіба яго ўзбоч шашы "варшаўкі". Сярод сустракаўшых госця быў і мясцовы святар Вячаслаў. Ён выказаў Аляксандру Рыгоравічу занепакоенасць вернікаў тым, што будаўніцтва Свята-Пакроўскай царквы, распачатае калгасам восем гадоў таму, дагэтуль не завершана — няма сродкаў, будматэрыялаў. А людзі чакаюць, каб храм нарэшце засвяціўся купаламі і там можна было адпраўляць набажэнствы.

Выслухаўшы сяльчан і святара, Аляксандр Рыгоравіч сказаў: "Цэгла і шыфер — за мною". Ад гэтых слоў прысутныя дружна запляскалі ў ладкі, перакананыя, што да выбараў прэзідэнт стрымае слова.

Мінула тры з паловай месяцы. Выніку ніякага. З'ездзіў у Мінск у Савет міністраў, там сказалі пачакаць... Гэтымі днямі я пазваніў у вёску знаёмаму пенсіянеру, ветэрану калгаса, каб пацікавіцца, як ідзе будоўля. Адказ быў несуцяшальным: "Ніяк. Пакуль ціха".

У народзе ёсць пагаворка: "Абяцанага тры гады чакаюць". Няхай успомняць вяскоўцы, колькі з абяцанага за сем гадоў Лукашэнка абяцаў ім... І многае засталося не выкананым. Можа, на гэты раз будзе інакш?

## Павучыцца б у суседзяў

Мы ўжо звыкліся з тым, што з раніцы да ночы па рэспубліканскім радыё на "Хвалях часу" і ў іншых перадачах па-беларуску размаўляюць пераважна вядучыя журналісты, ды і то не ўсе. А іх суразмоўцы, за рэдкім выключэннем, толькі па-руску. Вось і нядаўна прадстаўлены радыёслухачам новы міністр адукацыі Пётр Брыгадзін, у мінулым партапаратчык, доктар гістарычных навук, размаўляў не на мове тытульнай нацыі — як і новы міністр аховы здароўя Уладзіслаў Астапенка і іншыя члены ўрада. На іх, вядома, раўняюцца і будуць раўняцца надалей чыноўнікі ўсіх рангаў.

А мне прыпомнілася інтэрв'ю, якое давалі тэлестудыі НТБ з выпадку трагічнай гібелі расійскага пасажырскага самалёта ТУ-154 міністр абароны Украіны і камандуючы войскамі ПВА, абодва — генералы. Не хвалю змест іх выказванняў. Мяне кранула іншае. Не зважаючы на тое, што іх глядзяць і слухаюць мільёны тэлегледачоў у суседняй краіне, яны размаўлялі на добрай украінскай мове. Дальбог, мне было зайздросна! Хто калі чуў, каб наш міністр абароны Мальцаў даваў інтэрв'ю перад тэлекамерай па-беларуску? А вось міністр Казлоўскі ў час перадвыбарнай кампаніі свабодна карыстаўся ёю, хоць і меў рэдкі доступ да тэлекамер і мікрафонаў.

Так і засталася без рэагавання ў "вярхах" выказаная гадоў чатыры-пяць таму слушная прапанова нашага народнага пісьменніка Івана Шамякіна, каб усе міністры і чынавенства вакол іх, перад тым як заняць свае службовыя крэслы, здалі абавязковы экзамен на валоданне беларускай мовай. У Ізраілі, пасля ўтварэння ў 1948 годзе гэтай незалежнай краіны, дзяржаўнай мовай стаў старажытны іўрыт, якім тады мала хто там валодаў. Аднак законам абавязалі кожнага, хто думае працаваць у дзяржаўным апараце, а пазней і ўсюды на службе, авалодаць гэтай мовай. І яна прыжылася.

Нашы чыноўнікі да прапановы вядомага пісьменніка паставіліся абыякава, бо раўняюцца ва ўсім на "бацьку", які беларускую мову ўжывае вельмі рэдка.

Мікола КУТНЯВЕЦКІ.
г.Слуцк.

## Амерыканскі сенатар хоча пабудаваць дэмакратыю ў Беларусі

Амерыканскі сенатар Джэсі Хэлмс прадставіў на разгляд Кангрэса ЗША "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі 2001".

Законапраект прадугледжвае накіраваць 30 мільёнаў долараў ЗША "на аднаўленне і ўмацаванне інстытутаў дэмакратычнага ўрада ў Беларусі". Гэтыя сродкі мяркуецца выдаткаваць:

— на дзейнасць дэмакратычных сіл, у тым ліку палітычных партый, "скіраваную на пашырэнне дэмакратыі і абарону незалежнасці і сувэрэнітэту Беларусі", на "развіццё ўсіх элементаў дэмакратычнага працэсу, у тым ліку арганізацыі палітычных партый і досведу правядзення свабодных і справядлівых выбараў";

— на "міжнародны абмен і праграмы прафесійнай падрыхтоўкі для кіраўнікоў і актывістаў дэмакратычных сіл з мэтай удасканалення навыкаў, неабходных для развіцця грамадзянскай супольнасці";

— на радыё- і тэлевяшчанне на Беларусь;

— на "развіццё і падтрымку няўрадавых арганізацый як у Беларусі, так і ў эміграцыі, якія спрыяюць дэмакратыі і абараняюць правы чалавека";

— на "развіццё незалежных сродкаў масавай інфармацыі, якія дзейнічаюць у Беларусі і за яе межамі і абапіраюцца на недзяржаўныя друкарні".

У "Акце аб дэмакратыі ў Беларусі 2001" прапанавана таксама ўвесці санкцыі супраць кіраўніцтва Беларусі. Сярод іх — спыненне міжнароднага супрацоўніцтва з урадам, замарожванне актываў Беларусі ў ЗША, забарона на гандаль з кампаніямі, сузаснавальнікам якіх выступае беларуская дзяржава, а таксама на ўезд афіцыйных асоб у ЗША.

Паводле інфармацыі Радыё "Свабода", ва ўступным слове да законапраекта Джэсі Хэлмс назваў мэтай сваёй ініцыятывы "дапамагчы беларусам, што змагаюцца, рызыкуючы ўласным жыццём, аднавіць дэмакратыю і захаваць сваю краіну незалежнай і суверэннай".

Алесь КНЯЗЮК.

# Куй железо, пока горячо

**Самая актуальная тема последних дней в политических кулуарах Беларуси — возможность начала переговоров между официальными властями и политической оппозицией. Впрочем, те, кто используют в этом контексте слово "начало", то ли сознательно лукавят, то ли забывают о совсем недалеком прошлом**



Владимир ГЛОД

## Немного истории

Первая попытка наладить диалог власти и оппозиции пришлась на осень 1999 года. Тогда при посредничестве Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ международное сообщество сумело-таки усадить оппонентов за один стол. Оппозицию представлял созданный незадолго до этого Консультативный совет оппозиционных политических партий, Александр Лукашенко возложил соответствующие функции на своего тогдашнего помощника Михаила Сазонова.

Растопить лед взаимного недоверия было крайне сложно, уж очень много накопилось обид и подозрений. Оппозиция полагала, что властям в преддверии Стамбульского саммита нужна лишь имитация переговорного процесса, которую они хотели представить международному сообществу как реальное изменение ситуации в Беларуси. Власти не скрывали, что считают требования оппонентов завышенными и нереальными. Скорее всего процесс консультаций так бы и не сдвинулся с места, не прояви должного такта, настойчивости и дипломатического мастерства КНГ ОБСЕ во главе с Хансом-Георгом Виком.

В итоге были созданы группы экспертов, и начались консультации о допуске оппозиции к государственным СМИ. Они завершились подготовкой специального документа и приложения к нему, которые подписали, с одной стороны, профессор Михаил Пастухов, с другой — Михаил Сазонов. Запросы оппонентов режима трудно назвать даже минимальными. К примеру, в вечерней телепрограмме "Панарама" они могли получать всего 90 секунд. И ни секунды больше.

Но даже такая перспектива напугала власть. В государственных СМИ началась бешеная кампания против реализации достигнутых договоренностей. В итоге Александр Лукашенко фактически дезавуировал подписанные документы, а Михаил Сазонов вынужден был покинуть свой пост в президентской Администрации.

Теперь, по истечении времени, у меня есть своя версия случившегося. Получилось так, что переговорщики дали оппозиции возможность пусть крошечного, но ПОСТОЯННОГО присутствия в государственных масс-медиа, прежде всего электронных. Власть, привыкшая "пудрить мозги" населению, не давая при этом высказать альтернативную точку зрения, задать неудобный вопрос, перепугалась. Вот почему ей пришлось срочно и неуклюже давать задний ход.

## По новой?

Стремление возобновить диалог власти объясняют прошедшими в стране президентскими выборами. Мне кажется, это не так. Перемены произошли не 9 сентября, когда Александра Лукашенко вновь объявили избранным главой государства. Не случись через два дня трагических событий в Америке, сегодня Лукашенко и его окружение, как и раньше, жестоко давили бы своих оппонентов. Но мир кардинально изменился. Если уж Вашингтон и Москва сумели стать самыми тесными союзниками, то Кремлю уже никак не объяснишь, почему в Минске официальная власть и ее оппоненты не могут найти общего языка. Раньше Лукашенко постоянно пугал союзников, что без него Беларусь развернется на Запад. Но сегодня Россия сама уже туда развернулась. И что теперь?

Международные организации — от ОБСЕ до Совета Европы —обещают поблажку, но взамен требуют реальных перемен. Так называемая пошаговая стратегия Запада в отношении страны-изгоя в центре Европы понятна и ясна — вы делаете первый конкретный шаг и получаете "пряник", за второй получите еще один и т.д, и т.д. Кремль, который последнее время внешне дистанцировавшийся от белорусских дел, тоже сменил тактику. Теперь со стороны России началось так называемое мягкое давление: мол, пора показать миру, что у вас хоть что-то меняется. Ах, не хотите, но тогда мы найдем на вас управу. Только потом не пожалели бы. Именно эти обстоятельства, а отнюдь не "элегантная" победа на выборах и вынуждают власти говорить о желательности диалога.

## Кто с кем?

Похоже, что с руководителем переговорного процесса со своей стороны власть уже определилась. Высказывания помощника президента Сергея Посохова, публично сделанные им 29 октября на немецко-белорусском семинаре "Партнерство. Новые подходы. Новые возможности" дают все основания предполагать, что именно ему предстоит выполнять эту непростую функцию. По его словам, диалог общественно-политических сил Беларуси "не только возможен, но и необходим". Однако, отметил он, этот диалог должен проходить с учетом сложившейся в Беларуси "реальной политической ситуации". Необходимо, в частности, иметь в виду, что на последних президентских выборах Александр Лукашенко получил поддержку подавляющего большинства избирателей.

По сути, перед оппозицией ставится главное условие — она должна де-факто, а еще лучше де-юре признать "элегантную" сентябрьскую победу. Без этого диалог невозможен. Чем ответит на это оппозиция? Признать де-юре — значит, разойтись во мнениях с международными организациями, которые не признали эти выборы, отвечающие цивилизованным стандартам. Скорее всего оппозиция согласится с победой Лукашенко де-факто. А как иначе еще назвать согласие на переговоры с властями?

Но, уступив в этом, оппоненты могут потребовать уступок и от властей. На мой взгляд, хотя бы по трем позициям. Во-первых, власть должна признать определенный процент лжи в итогах голосования — ведь социологи вскоре все равно назовут реальные, а не дутые цифры. Во-вторых, Лукашенко по меньшей мере не выиграл у Гончарика в Минске. А все революции, как известно, начинаются в столице. В-третьих, реальный глава государства проиграл в молодежной среде. Поэтому перспективы власти не ахти какие и она достаточна уязвима. А это дает возможности оппозиции серьезно поторговаться хотя бы на предмет переговоров.

А это необходимо, ибо уже сегодня видно, что оппоненты собираются говорить о разных вещах. К примеру, Консультативный совет оппозиционных политических партий, на прошлой неделе заявивший о своей готовности к возобновлению консультаций с властями, не видит иных тем для обсуждения, кроме всем известных четырех условий, которые выработало международное сообщество специально для Беларуси. Власти же, судя по высказываниям Сергея Посохова, хотят, чтобы предметом переговорного процесса стали общественно значимые проблемы. Среди них помощник главы государства назвал демографическую ситуацию в Беларуси, проблемы национальной безопасности "в резко изменившемся мире" и развитие белорусско-российского союза.

## Переговоры или диалог?

Так чем же намерены заниматься власти и оппозиция? Будут это предварительные переговоры, переговоры, переговорный процесс, диалог, консультации?.. Вопрос не так прост и совсем не надуман, как может показаться на первый взгляд. Переговоры (в любой форме) предполагают выход на конечный результат, чего и удалось достичь в 1999 году. Диалог, даже если его для пущей солидности назвать "общественно-политическим", никого ни к чему не обязывает, в чем все могли убедиться в 2000 году. Теперь власти (вновь сошлюсь на того же Сергея Алексеевича) заявляют, что в диалоге должны принимать участие представители всех слоев и политических групп общества, а обсуждаемые вопросы должны иметь общенациональное значение. Тогда диалог будет иметь "и широту, и глубину".

Но возможно ли вообще найти какое-то конструктивное решение на подобном "хурале"? Весь предыдущий опыт показывает, что это зряшная надежда.

* * *

Боюсь, что в любом варианте Лукашенко, как это было не раз, все равно обманет своих оппонентов. Сейчас ситуация вынуждает его идти на диалог. Спустя какое-то время многое может измениться, и тогда по привычной схеме он попросту смахнет фигуры с шахматной доски. Так что же, вообще не начинать партию? Думаю, хуже всего бездействие и упование на перемены, которые придут сами по себе. Да и нельзя бесконечно долго оставаться внесистемной маргинальной оппозицией. А потому нужно тщательно обдумать каждый ход новой партии. Но при этом не попасть в цейтнот. Ибо железо куют, пока оно горячо.

